ТЭЛЕПРАГРАМА НА ТЫДЗЕНЬ

№55 (1868)

Субота, 27 сакавіка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +3...+5, уначы — 0...+2, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +3...+5, уначы — +2...+4, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +2...+4, уначы — -1...+1, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +3...+5, дождж, уначы — 0...+2, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +8...+10, дождж, уначы — +4...+6, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +6...+8, уначы — +2...+4, на працягу сутак — без ападкаў.

www.meteo.by

Пейджинговую связь редакции обеспечивает
МОБИЛКОМ пейджинг-система
(017) 209-45-45
(017) 209-45-55

# Цяжкі шлях беларусаў да волі

**ПУЛЬС**

## Кніга пра Мулявіна

У выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйдзе ў свет кніга "Нота лёсу" аб жыцці і творчасці народнага артыста СССР і Беларусі, заснавальніка і мастацкага кіраўніка ансамбля "Песняры" **Уладзіміра Мулявіна.**

Над стварэннем кнігі працаваў аўтарскі калектыў газеты "Культура" пад кіраўніцтвам галоўнага рэдактара **Людмілы Крушынскай.** У выданні некалькі раздзелаў, у якія ўключаны біяграфія Уладзіміра Мулявіна, факты з яго жыцця і творчасці, фрагменты асабістай справы з архіва, успаміны родных і блізкіх, дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, майстроў мастацтваў шмат інтэрв'ю, фатаграфій. Сабраны таксама музыказнаўчыя матэрыялы пра выдатную творчую спадчыну артыста.

Кніга выйдзе ў рамках мерапрыемстваў па ўшанаванні памяці народнага артыста СССР.

## Трыумфальная «Чайка» мастака Вахрамеева

*Уладальнікам штогадовай прэміі імя заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі* ***Івана Ушакова,*** *заснаванай яго ўдавой, стаў мастак Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек* ***Аляксандр Вахрамееў*** *— за афармленне спектакля "Чайка. Вопыт прачытання".*

Як паведаміла на цырымоніі дырэктар музея **Зінаіда Кучар,** прафесійнае журы выбрала афармленне А.Вахрамеева з *"пяці прэм'ерных спектакляў",* палічыўшы яго работу лепшай.

Апрача таго, на вечарыне адбылося ўручэнне дыпломаў за развіццё міжнародных сувязяў і прапаганду беларускага тэатральнага мастацтва, ініцыіраванае Беларускім цэнтрам Міжнароднага інстытута тэатра (ЮНЕСКА). Уладальнікамі дыпломаў сталі мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа (Віцебск) **Віталь Баркоўскі,** рэжысёр Гродзенскага тэатра лялек **Алег Жугжда,** вядомыя тэатральныя крытыкі **Таццяна Арлова, Людміла Грамыка, Надзея Бунцэвіч,** загадчыца літаратурнай часткі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы **Марыяна Бартніцкая,** крытык, унучка вядомага мастака Юрыя Пэна **Ганна Герштэйн** і іншыя.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Атруціліся мясам і каўбасой

У вёсцы Боркі Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці зафіксавана 13 выпадкаў захворвання на трыхінелёз.

Паразітарная інвазія днямі выяўлена ў членаў дзвюх сем'яў і 5 чалавек, якія з'елі заражонае мяса дзіка.

Трыхінелёз — небяспечнае захворванне, якое ў народзе называюць "адутлаваткай" з-за таго, што ў хворых узнікае адутлавасць твару. Крыніцамі інвазіі часта становяцца хатнія свінні, дзікі, сабакі, грызуны. Заражэнне чалавека адбываецца пры заглынанні з мясам лічынак трыхінел, сырога або недастаткова тэрмічна апрацаванага мяса. Дзеці звычайна хварэюць больш лёгка, чым дарослыя. У цяжкіх выпадках цячэння хваробы і пры запозненым звяртанні да ўрачоў чалавек становіцца інвалідам.

Як паведаміла БелаПАН загадчык эпідаддзела Брэсцкага абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя **Ала КОРЗАН,** спачатку трыхінелёз выявілі ў двух мінскіх студэнтаў з вёскі Боркі. Атруціліся яны сыравэнджанай каўбасой, выробленай з забітага яшчэ ў студзені кабана. Пасля гэтага Ганцавіцкія эпідэміёлагі ў тэрміновым парадку пачалі абследаванне ўсіх, хто мог есці заражонае мяса. Высветлілася, што шашлыкі, каўбасу і катлеты ўжывала ў ежу нават паўтарагадовае дзіця. Усе інфіцыраваныя цяпер шпіталізаваны і праходзяць лячэнне.

Паводле слоў А.Корзан, паляўнічыя павінны былі правесці ветэрынарна-санітарную экспертызу забітага дзіка, але рабіць гэтага не сталі. Праз некаторы час з'явіліся прыкметы хваробы — кішэчныя расстройствы, рвота, болі ў мышцах, якія лячыліся звыклымі сродкамі. Усё гэта ў сукупнасці і прывяло да масавай успышкі захворвання.

Паводле слоў Алы Корзан, успышкі трыхінелёзу ў некаторых раёнах Брэстчыны назіраліся 40—50 гадоў таму, пазней масавае захворванне рэдка даходзіла да 25 чалавек.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Пляменніца зарэзала дзядзьку

Днямі ў вёсцы Куршынавічы Ляхавіцкага раёна (Брэсцкая вобласць) у сваім доме з нажавым раненнем брушыны знойдзены труп 40-гадовага мясцовага жыхара. Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Беларусі, следча-аператыўнай групай Ляхавіцкага РАУС папярэдне ўстаноўлена, што мужчыну падчас сваркі забіла 23-гадовая пляменніца, якая пражывала разам з ім. Падазроная затрымана. Вядзецца следства.

Паводле даных МУС краіны, у 2003 годзе ў краіне ад рук блізкіх і сваякоў загінулі 130 чалавек, 360 атрымалі цяжкія і 193 не вельмі цяжкія цялесныя пашкоджанні. Цяпер на ўліку ў сістэме "Быт" у органах унутраных спраў знаходзяцца каля 18 тысяч чалавек.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Курсы валют на 27 сакавіка

*Нацыянальны банк устанавіў на 27 сакавіка наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:*

| | |
|---|---|
| 1 долар ЗША — 2151 рубель | 1 літоўскі літ — 755,04 |
| 1 еўра — 2606,90 | 1 малдаўскі лей — 182,68 |
| 1 расійскі рубель — 75,50 | 1 нарвежская крона — 309,03 |
| 1 аўстралійскі долар — 1593,57 | 1 польскі злоты — 547,57 |
| 1 балгарскі леў — 1339,23 | 1 сінгапурскі долар — 1272,86 |
| 1 дацкая крона — 350,02 | 10.000 турэцкіх лір — 16,25 |
| 1 СДР — 3159,02 | 1 украінская грыўна — 403,31 |
| 1 ісландская крона — 29,81 | 1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3894,60 |
| 10 японскіх іен — 203,44 | 1 чэшская крона — 79,68 |
| 1 казахскі тэнге — 15,53 | 1 шведская крона — 281,68 |
| 1 канадскі долар — 1621,07 | 1 швейцарскі франк — 1675,30 |
| 1 кувейцкі дынар — 7299,44 | 1 эстонская крона — 166,60 |
| 1 кыргызскі сом — 49,83 | |
| 1 латвійскі лат — 3990,72 | |

## «Рана келіх хаўтурны піць па Айчыне»

*Гэтыя паэтычныя словы вызначалі настрой на вечарыне ў Доме літаратара.*

*25 сакавіка, калі адзначаліся 86-я ўгодкі з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, сталічны Дом літаратара трашчаў ад велізарнага наплыву людзей, якіх хвалюе мінулае, сучаснае і будучае роднай Беларусі.*

Менавіта год назад, 25 сакавіка 2003 года быў падпісаны ў друк першы нумар незалежнага беларускага часопіса "Дзеяслоў". Як паведамляла "Народная воля", гэты часопіс заснаваў літаратурную прэмію **"Залаты апостраф"**, і вось зараз ва ўрачыстай, святочнай абстаноўцы на вечарыне ў Доме літаратара былі названы першыя лаўрэаты за 2003 год.

У намінацыі *"Проза"* "Залаты апостраф" прэмія прысуджана — на жаль, пасмяротна — слыннаму творцу **Васілю Быкаву.** Перапоўненая зала (людзі, якім не хапіла месца, цярпліва стаялі ў праходах на працягу дзвюх з паловай гадзін) стоячы вітала гэтае рашэнне. Прэмію прыняў сын вялікага пісьменніка Сяргей Васільевіч.

У намінацыі *"Паэзія"* прэміяй уганараваны **Алесь Бадак**, а ў намінацыі *"Лепшы літаратурны дэбют"* — малады паэт **Глеб Лабадзенка.** Усім лаўрэатам падаравалі арыгінальныя керамічныя статуэткі і тры гваздзікі пад колер бел-чырвона-белага сцягу.

Атмасфера вечарыны была насычана вольным беларускім словам і духам. Яно гучала з вуснаў вядомых літаратараў і грамадскіх дзеячаў, творчай моладзі. З Днём Волі павіншаваў прысутных **Генадзь Бураўкін**, які выказаў упэўненасць, што беларуская літаратура будзе жыць, нягледзячы на ўсе перашкоды і цяжкасці.

Былы міністр замежных спраў **Пётр Краўчанка** падзяліўся спадзяваннем, што праз не такі ўжо доўгі час Дзень Волі стане святам нацыянальнага маштабу. Пісьменніца Вольга Іпатава гаварыла пра нязгасную памяць змагароў за Волю Бацькаўшчыны.

Упэўнены ў светлым дні Радзімы не толькі тыя, хто быў у той вечар у зале Дома літаратараў. Аб гэтым і песня паэта і барда, намесніка галоўнага рэдактара "Дзеяслова" **Эдуарда Акуліна**, якая прагучала на вечарыне:

*Рана келіх хаўтурны піць*
*па Айчыне душой збалелай,*
*Покуль небам скрозь ноч*
*ляціць бусел-сцяг бел-чырвона-белы!".*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

## Падчас святкавання Дня Волі затрыманы 11 чалавек

11 чалавек былі дастаўлены 25 сакавіка ў Цэнтральнае РУУС горада Мінска з плошчы Свабоды, дзе прадстаўнікі дэмакратычных партый і рухаў мелі намер правесці гулянні з нагоды 86-й гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Улады не санкцыянавалі правядзенне масавай акцыі, таму ў 17 гадзін АМАП разагнаў каля 300 грамадзян. Сярод затрыманых — старшыня Партыі БНФ **Вінцук Вячорка,** кіраўнік ліквідаванага праваабарончага цэнтра "Вясна" **Алесь Бяляцкі,** юрыст гэтага цэнтра **Валянцін Стэфановіч,** актывіст Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Андрэй Козел,** вядомыя дзеячы апазіцыі **Вячаслаў Сіўчык** і **Яўген Скочка.** Пасля дачы тлумачэнняў частка затрыманых была адпушчана.

*"Гэта было масавае прэвентыўнае затрыманне, санкцыяніраванае дзяржаўнай уладай,* — заявіў БелаПАН пасля выхаду з міліцыі Вячорка. — *Менавіта паводле яе ініцыятывы было забаронена праводзіць у Доме ветэранаў канцэрт, прысвечаны Дню Волі".*

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Злавесны спектакль

28 сакавіка на Дзень Волі, калі адзначаліся 86-я ўгодкі з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, неабыякавыя да лёсу сваёй краіны людзі прыйшлі на Пляц Волі. Прыйшлі да адбудаванай Ратушы, каб ускласці кветкі ў памяць барацьбітоў за Незалежнасць сваёй краіны...

Калісьці мяне хрысцілі ў Кафедральным саборы на гэтым пляцы, а сёння?

...Амапаўцы і пераапранутыя ў цывільнае "стрыжанагаловыя" праводзілі так званую "зачыстку", выцiскалі людзей з пляца, і рабілі гэта вельмі жорстка. Валянціна Мацкевіча, як бервяно, цягнулі ў "варанок"... Паважаную Вольгу Міхайлаўну Іпатаву, вядомую ў свеце пісьменніцу, штурхалі ў плечы, выпраўляючы з таго месца, куды яна прыйшла па волі свайго сэрца і сумлення. Куды павінен быў прыйсці кожны грамадзянін краіны.

Цудоўны вясновы дзень быў азмрочаны такім нялюдскім абыходжаннем улады са сваімі грамадзянамі. Але ў свой час яна будзе трымаць за гэтую знявагу, за гэты злавесны спектакль адказ перад Богам і людзьмі!

**Алесь ШАТЭРНІК, скульптар.**



Фота ByMedia.net

**КАК ЭТО БЫЛО**

## Одни — с цветами, другие — с цепями, третьи — с дубинками

**Сергей ПУЛЬША**

День Воли прошел бы совсем тихо, если бы не несколько "но"...

Еще до начала сбора людей для массовых гуляний на минской площади Свободы трое активистов оппозиции пришли на Октябрьскую площадь. И не просто пришли, а приковались там цепями к столбам освещения и развернули плакаты. Ваш покорный слуга успел увидеть только один, на котором было написано, что Белорусская Народная Республика живет и жить будет. Люди в штатском достаточно быстро среагировали на эту акцию и изъяли транспаранты.

Чуть позже был вызван спецавтобус. И опять же люди в штатском, а не в милицейской форме держали пикетчиков так, чтобы те не могли сопротивляться, и сбивали цепи со столбов. В результате всех троих оппозиционеров вместе с их цепями забрали в Центральный РОВД Минска. Одним из задержанных оказался Вячеслав Сивчик.

Тем временем на площади Свободы собралось около сотни человек: некоторые с цветами, другие — с плакатами. На одном из них было написано, что "Ивонка Сурвилла — наш президент". Однако ровно в 17.00 (время начала акции) милиция провела свою операцию. Площадь Свободы была оцеплена, и через громкоговорители был озвучен стандартный текст: "Акция не санкционирована, просьба — разойтись". После того, как трех человек, не откликнувшихся на этот призыв, увели в милицейские машины, началось "выдавливание" людей с площади. Плотной цепью милиционеры шли по тротуарам, оттесняя тех, кто еще не отошел от городской ратуши.

Впрочем, особо желающих остаться на площади Свободы и не было. Большинство решило, что на этом празднование Дня Воли закончено.

Оказалось, что нет. Ведь в программе не санкционированной властями акции в честь провозглашения БНР было сказано, что планируется организованная прогулка по улицам города, которая должна закончиться возложением цветов к памятнику знаменитому белорусскому поэту Янке Купале. И порядка 20 человек во главе с бывшим редактором газеты "Рабочий" Виктором Ивашкевичем пошли по улице Богдановича, свернули возле Оперного театра и до памятника классику все-таки дошли. Цветы возложили благополучно — милиция не препятствовала.

Кстати, по дороге эта группа узнала, что лидер Партии БНФ Винцук Вячорка, руководитель незарегистрированной Ассамблеи неправительственных организаций Алесь Беляцкий и еще несколько деятелей оппозиции к началу сбора на площади Свободы просто опоздали. Они приехали минут на десять позже и были задержаны милицией.

В сквере Янки Купалы началось скромное празднование Дня Воли. Подошел хор, подтянулись те, кого ранее выгнали с площади Свободы. Человек 80—100 слушали песни и беседовали. Проговорили часа два. Не было ни спичей, ни лозунгов (даже стандартного "Жыве Беларусь!" не кричали), ни бело-красно-белых флагов.

В общем, торжественного празднования дня образования Белорусской Народной Республики явно не получилось — несмотря на то, что формально программа была выполнена практически вся, за исключением концерта. Его проведение в Доме ветеранов было отменено еще утром 25 марта: стало известно, что администрация отказала организаторам в аренде зала в самый последний момент.

**ТАМ, В МОСКВЕ**

## Российские политики обеспокоены действиями нашего руководства

Это событие пресса как бы обошла стороной. А я считаю, что оно имело знаковый характер, а потому нужно, чтобы о нем знало побольше людей.

19 марта 2004 года в Москве Совет по внешней и оборонной политике (СВОП) провел "круглый стол" под названием "Состояние и перспективы российско-белорусских отношений" с участием представителей белорусских оппозиционных партий, независимых средств массовой информации, научно-исследовательских и аналитических структур. С российской стороны принимали участие широко известные и в Беларуси ученые, политики и общественные деятели — председатель президиума СВОП, заместитель директора Института Европы РАН **С.КАРАГАНОВ,** президент фонда "Политика" **В.НИКОНОВ,** вице-президент Российского союза промышленников и предпринимателей **И.ЮРГЕНС,** директор Российского института стратегических исследований **Е.КОЖОКИН,** депутат Государственной Думы **К.ЗАТУЛИН,** заместитель начальника Управления президента РФ по внешней политике **А.СИТНИН** и другие. На ужине присутствовал заместитель руководителя Администрации президента РФ, помощник президента РФ по международным вопросам **С.ПРИХОДЬКО.**

Состоялась интересная дискуссия по многим аспектам отношений России и Беларуси. Что интересно, наших российских коллег интересовало состояние отношений между белорусскими властями и оппозицией, подготовка к выборам в Национальное собрание и будущим президентским выборам. Значительное внимание было уделено анализу "газового конфликта". Очевидным является то, что отключение подачи российского газа, повышение цены на него являются элементом политического давления, а не только отношением хозяйствующих субъектов двух государств. Российская сторона не может более терпеть такое положение, когда за обещаниями и призывами к интеграции не следует практических дел. Президент Лукашенко классифицируется как весьма несговорчивый партнер, и, по мнению аналитиков, к нему потеряно всякое доверие. Из анализа выступлений российских политиков и специалистов у меня создалось впечатление, что российское руководство уже не видит перспективы в отношениях с Беларусью, пока ее власти проводят такую политику.

На прямой вопрос, что хочет и чего ждет Россия от Беларуси, ответ был таков: *Россия хочет иметь доброжелательного и стабильного соседа, проведение демократических преобразований и реформирование экономики в Беларуси, а также экономического и политического сближения наших государств. Ни о каком вхождении Беларуси в состав Российской Федерации и тем более областями не может быть и речи. Россия хочет иметь на западном направлении дружественное демократическое государство с современной экономикой.*

Остается один вопрос — желает ли Беларусь быть демократическим государством с эффективной экономикой? Пока этого не видно. Ведь разделить можно только то, что заработано. Так живет весь цивилизованный мир. Иждивенчество не поощряется ни в государственном, ни в частном проявлениях. Не поощряется и нарушение норм международного права и отношений, чем грешит белорусский режим.

Не все ладно и в белорусской оппозиции. Это заметили наши российские коллеги. Я представлял Народную коалицию **"5+"** и в своем выступлении подчеркнул, что наша коалиция объединяет практически все реально действующие оппозиционные политические партии и общественные организации и что, в отличие от некоторых политических микрообъединений, мы осознаем влияние России на нашу внутреннюю политику. Но прежде всего надеемся на собственные силы.

**Александр БУХВОСТОВ, председатель Белорусской партии труда.**

**В МИРЕ**

## Олимпийский огонь начал свой путь

Тысячи человек собрались в греческом местечке Олимпия на церемонию зажжения олимпийского огня. Греческая актриса Талия Прокопиу, переодетая жрицей храма богини Геры, зажгла факел в соответствии с традицией Олимпиад древности.

Впервые в истории факел посетит все пять континентов, которые символизируются олимпийскими кольцами. Шествие факела по планете продлится 78 дней. Из Олимпии он совершит семидневное путешествие по югу Греции и будет гореть у стадиона, где были проведены первые современные Олимпийские игры 1896 года, до 4 июня. Первым с факелом побежит бывший чемпион мира по метанию копья Костас Гатсиудис.

Далее факел направится в Австралию. Олимпийский огонь побывает во всех городах, где проходили Летние Игры в прошлом, а также в девяти городах, претендующих на проведение Олимпиады 2012 года.

Гатсиудис передаст факел российскому пловцу Александру Попову, который выиграл две олимпийские золотые медали в 1992 году, еще две в 1996-м, а также серебро четыре года назад. Среди других известных факелоносцев окажутся принц Монако Альберт, бывший член сборной по бобслею, и легендарный прыгун с шестом Сергей Бубка.

Афины пока что с трудом укладываются в график подготовки к Олимпиаде и надеются, что нынешняя церемония поможет изменить пессимистическое настроение к лучшему.



До начала церемонии к собравшимся обратился Жак Рогг, глава Международного Олимпийского комитета: "Олимпийские игры возвращаются в страну, где они родились. Первые игры прошли в Олимпии в 776 году до нашей эры. И сегодня все начнется заново. Как никогда раньше, Афины и Греция окажутся в центре внимания всего мира".

**КОНФЛИКТНАЯ СИТУАЦИЯ**

## Заставить людей молчать о том, что уже давно для всех очевидно

**Белорусский конгресс демократических профсоюзов (БКДП) распространил заявление, в котором призвал граждан Беларуси поставить свою подпись под законодательной инициативой об отмене декрета президента № 29 от 26.07.1999 г. "О дополнительных мерах по совершенствованию трудовых отношений, укреплению трудовой и исполнительской дисциплины".**

Дело в том, что в БКДП обратилась группа граждан с просьбой оказать помощь в оформлении законодательной инициативы об отмене декрета №29 путем сбора 50.000 подписей граждан Беларуси. Исполком БКДП принял решение такую помощь оказать, так как считает, что профсоюзы обязаны защищать трудовые права граждан, когда они нарушаются в массовом порядке, всеми доступными способами. В распоряжение инициативной группы будут представлены все имеющиеся ресурсы независимого профцентра.

В заявлении исполкома БКДП говорится: "В Белорусский конгресс демократических профсоюзов поступают многочисленные обращения от граждан Республики Беларусь, являющихся наемными работниками, в связи с массовыми переводами на контрактную форму найма. Основанием для таких переводов является декрет № 29 президента Республики Беларусь от 26.07.99 г. "О дополнительных мерах по совершенствованию трудовых отношений, укреплению трудовой и исполнительской дисциплины". "Всеобщая контрактизация" наемных работников, осуществляется на основании временного законодательного акта (декрета №29). При этом упомянутый декрет концептуально противоречит трудовому праву (см. Трудовой кодекс, ст.17), в основе которого заложен принцип постоянной занятости. Работников, получающих мизерную зарплату (Беларусь находится на предпоследнем месте в Европе по уровню заработной платы), принуждают подписывать контракты под угрозой увольнения. Это при том, что "поголовная контрактизация" ухудшает правовое положение большей части трудоспособного населения. Этот "правовой Чернобыль" устроен под благовидным предлогом укрепления трудовой и исполнительской дисциплины. Скажите, что мешает уволить недисциплинированного работника (пьяницу, прогульщика, несуна) на основании Трудового кодекса?

Очевидно, задача поставлена иная: ввести в состояние нестабильности, неуверенности как можно больше людей. Под угрозой непродления контракта можно заставить людей молчать о том, что уже давно для всех очевидно, — действующая власть привела страну к полной самоизоляции от всего цивилизованного мира, экономика стагнирует и полностью зависит от поставки дешевых российских энергоресурсов. Беларусь безнадежно отстала от стартовавших вместе с ней прибалтийских соседей, которые вскоре станут полноценными членами европейского сообщества. И разрыв будет возрастать с каждым годом, поскольку новые члены этого сообщества вынуждены будут подтягиваться до уровня передовых стран".

Белорусский профсоюз радиоэлектронной промышленности (РЭП) обратился в Конституционный суд Республики Беларусь с просьбой вынести решение о признании п.1 Декрета президента РБ № 29 "О дополнительных мерах по совершенствованию трудовых отношений, укреплению трудовой и исполнительской дисциплины" от 26 июля 1999 года неконституционным. Именно в соответствии с этим декретом трудящихся Беларуси повсеместно переводят на контрактную форму найма. Профсоюз РЭП считает, что Декрет № 29 противоречит международным нормам, ратифицированным Беларусью, Конституции РБ, Трудовому кодексу РБ и Закону РБ "О профессиональных союзах". "Право на заключение контрактов со всеми категориями работников, которым наделены наниматели в Республике Беларусь, вступает в противоречие с конституционными гарантиями в отношении обеспечения права на труд и полной занятости населения. Одностороннее право нанимателя на заключение контрактов со всеми категориями работников дискриминирует их в области трудовых отношений и ставит в заведомо неравноправное, зависимое от нанимателя положение. Срочные трудовые договоры, к которым относится контракт, ухудшают правовое положение работников, прежде всего из-за права нанимателя уволить работника по истечении срока договора без какого-либо обоснования, предупреждения и вины работника", — говорится в обращении. Повсеместное и массовое заключение контрактов лишает работников защиты со стороны профсоюзов. Очевидно также, считает профсоюз радиоэлектроники, что применение контрактной системы найма в силу непроработанности и противоречивости не способствует повышению трудовой дисциплины и росту заинтересованности работников в результативности своего труда, а лишь значительно ухудшает их правовую защищенность.

praca-by.info

ЛЁСЫ ЛЮДСКІЯ

# Грахнёвы





*Таісія і Васіль Грахнёвы.*
*Такімі яны ўбачылі адзін аднаго падчас вайны.*

### Ішла дзяўчына па вайне

Хлопчык з суседняга пад'езда стаяў ля дзвярэй з люстэрачкам у руках і пускаў сонечныя зайчыкі. Камячок яркага святла скакаў па падручніку, які на лаўцы засяроджана чытала Таіса. Было лета, у школу хадзіць не трэба, але для яе гэта не мела ніякага значэння: дзяўчына ўжо некалькі гадоў запар па сваёй ініцыятыве вывучала англійскую і нямецкую мовы. Тата, урач, усяляк заахвочваў дачку да гэтага, казаў, што, жывучы ў Мінску, трэба выкарыстоўваць усе магчымасці для развіцця здольнасцяў. І Таіса старалася.

Калі хлопчык надакучыў сваімі зайчыкамі, усхапілася з лаўкі і хацела падбегчы да яго, каб забраць люстэрка, ды раптам стала, як укапаная, бо з адчыненага акна на другім паверсе жудасна загаласіла жанчына:

— А Божачка, а міленькі, вайна!..

Хлопчык пабег дадому, а яна не магла паварушыцца: вучаніцы выпускнога класа не трэба было тлумачыць, што такое вайна.

...Жыццё закруцілася, нібы ў страшных жорнах. Праз нейкі месяц Таіса ўжо была пад Масквой у складзе спецгрупы, якую рыхтавалі для работы ў партызанскіх атрадах і ў тыле ворага. Яна па сваёй добрай волі вырашыла стаць разведчыцай, мяркуючы, што веданне нямецкай мовы будзе вельмі дарэчы. Як і хлопцы-курсанты, вучыла спецпрыёмы, была спрытная, адважная, мела хуткую рэакцыю.

Пасля вучобы іх групу ў складзе 25 чалавек закінулі ў Заходнюю Беларусь. Яны жылі ў партызанскіх атрадах, вялі разведку. Таіса была кіраўніком сямі разведчыкаў. Хадзілі на заданні па некалькі чалавек, а то і па адным. Звесткі, здабытыя імі, дапамагалі не толькі партызанам, але і дзеючай арміі.

Гінулі сябры, але Бог бярог Таісу ад кулі, ды не ўбярог ад здрады. Аднойчы, калі пайшла ў разведку адна, па даносе здрадніка яе схапілі немцы. Допыты і катаванні нічога не далі, і фашысты завезлі ледзь жывую дзяўчыну ў Смілавічы, дзе пакутавалі многія патрыёты. Немцы, нічога ад іх не дабіўшыся, вырашылі расстраляць. Падвялі ўсіх да ямы і адкрылі агонь. Людзі замертва падалі ў брацкую магілу. Таіса памятае толькі штуршок у галаву і снег, які з белага раптам стаў чорным...

Фашысты ўцяклі, нават не прысыпаўшы трупы зямлёй. Напэўна, іх нешта моцна напалохала. А назаўтра прыйшлі партызаны, каб па-людску пахаваць забітых. Яму за ноч спорна засыпала снегам. Даставалі па адным і беражліва клалі на сані, каб завезці ў атрад, памыць нябожчыкаў і пахаваць у чыстай бялізне. Маладая дзяўчына з доўгімі светлымі косамі таксама, здавалася, была без прыкмет жыцця. Але калі яе прывезлі ў атрад, з галавы пацякла кроў.

— Браточкі, дык яна ж жывая! — усклікнуў адзін партызан. Хуценька паклікалі доктара, і той пацвердзіў: сапраўды жывая, але рана на галаве страшная.

Ёй зрабілі сем аперацый на галаве ў розных гарадах Савецкага Саюза: у Чэлябінску, Свярдлоўску, Чыце, Магілёве і тры ў Маскве. Некалькі гадоў не магла гаварыць. Чула, а сказаць не магла. "Пай-пай" — толькі гэтыя гукі, складзеныя ў два кароценькія словы, былі пад сілу няшчаснай дзяўчыне. Да таго ж у яе слаба дзейнічалі правыя рука і нага.

### Снарады клаліся так блізка...

Васіля Грахнёва вайна заспела на летнім лузе, дзе так цудоўна пахла скошанымі травамі і дзе яны з мамай сушылі сена. Хлопец ужо закончыў школу і застаўся працаваць у калгасе роднай Кіраўскай вобласці. На другі дзень вайны яго прызвалі ў ваенкамат і накіравалі на курсы авіямеханікаў. Потым — Заходні фронт. Смерць сяброў, холад, фізічныя і псіхалагічныя перагрузкі — усё трэба было вытрымаць і выстаяць. Снарады клаліся так блізка, смерць была на адлегласці выцягнутай рукі. У 1942 годзе яго параніла ў нагу.

— Раненне было нязначнае, я ўсяго тры месяцы праляжаў у шпіталі, — успамінае цяпер гэты мужны і сціплы чалавек.

Яго накіравалі ў Маскву на курсы лейтэнантаў. Атрымаўшы афіцэрскае званне, вызваляў Смаленск, беларускія гарады і вёскі. Пад Віцебскам параніла зноў. На гэты раз вельмі моцна. У галаву. Ляжаў у шпіталі тры доўгія гады. Цэлы год зусім не ўставаў з ложка. У яго таксама аслабелі правыя рука і нага...

### Першае спатканне

Таіса ў маскоўскім шпіталі ляжала ў палаце адна. Ёй ужо стала лепш, малады арганізм мабілізаваў супраць ранення ўсе сілы. Аднойчы яна пачула, як медсястра некаму казала ў калідоры:

— Эй, Грахнёў, тут у нас вельмі прыгожая дзяўчына ляжыць. Яна яшчэ не ходзіць. Зайдзі ў палату, бо ёй вельмі сумна. Гаварыць табе цяжка, я ведаю, але зайдзі.

Ён адчыніў дзверы і ўбачыў прыгожы твар са спакутаванымі, напоўненымі болем вачыма. На нейкае імгненне ў іх прамільгнула не то радасць, не то здзіўленне.

— Добры дзень... Як цябе завуць? — з цяжкасцю спытаў малады лейтэнант.

— Пай-пай... — разгублена прамовіла дзяўчына, і з яе вачэй на падушку скаціліся дзве слязінкі. У яго душы скруціліся ў тугі клубочак спагада, жаль, замілаванне і яшчэ нешта такое, без чаго ўжо немагчыма было жыць. Ён сеў ля ложка на табурэтку, лагодна ўзяў здаровай левай рукой яе правую, зусім бяссільную:

— Ты паправішся. Усё будзе добра, — гаварыў і ўсміхаўся, а на вачах блішчэлі слёзы.

Такім было іхняе першае спатканне. Без кветак, без музыкі, а сярод болю, акрываўленых бінтоў, сваіх і чужых пакут.

Васіль прыходзіў у палату кожны дзень і з радасцю бачыў, як ажываюць чароўныя Таісіны вочы, а губы кранае мілая ўсмешка. Яны не прызнаваліся адзін аднаму ў каханні, бо Таіса ўсё яшчэ не магла гаварыць, але абодва былі перакананы, што яно, гэта каханне, ёсць, што яно звязала іх навекі. І няважна, што размаўлялі жэстамі. Верылі: прыйдзе час, і яны скажуць адзін аднаму самыя пяшчотныя, самыя ласкавыя словы, якія толькі ёсць на свеце.

Пасля лячэння ў шпіталі лейтэнанта Васіля Грахнёва камісавалі з арміі, і ён, развітаўшыся з Таісай, паехаў дадому, у Кіраўскую вобласць. Ёй яшчэ трэба было доўга лячыцца, але маладыя людзі дамовіліся, што, калі Таіса паправіцца, абавязкова сустрэнуцца і пажэняцца.

### Бацькоўскае шчасце і... гора

Пачаліся доўгія месяцы перапіскі. Гэтымі пісьмамі, дзе была надзея на шчасце і вялікае каханне двух пакалечаных вайной маладых людзей, яны абодва зачытваліся бяссоннымі начамі. І чакалі, і верылі, што прыйдзе час сустрэчы. Нарэшце Таіса напісала Васілю, што яе выпісваюць і яна паедзе жыць да бацькоў у пасёлак Наваельня Дзятлаўскага раёна, што ў Заходняй Беларусі, бо яе тата Федасей Болбат працаваў тады галоўным урачом у мясцовай бальніцы. Сюды прыехаў і Васіль. Яны ажаніліся. З таго часу мінула больш як паўстагоддзя...

Вайна пакалечыла іх целы, але душы засталіся крыштальна чыстымі, высакароднымі, у іх пастаянна жыве любоў і спагада, дабрыня і міласэрнасць не толькі ў адносінах адзін да аднаго, але і да ўсіх людзей.

Хоць і нялёгка было, але Таісія Федасееўна нейкі час працавала выхавальніцай у мясцовым дзіцячым садку. Потым, калі стала яшчэ горш са здароўем, звольнілася, але яе запрашалі на падмену.

Васіль Ільіч уладкаваўся ў Наваельнінскую бібліятэку. Потым сам арганізаваў бібліятэку ў вёсцы Навасёлкі і загадваў ёю на працягу дзевяці гадоў. Хадзіў на работу пешшу. Было вельмі цяжка. І калі прапанавалі работу кладаўшчыка ў Наваельнінскай сельгастэхніцы, з радасцю згадзіўся. Адтуль і на пенсію пайшоў.

Таісія Фёдараўна і Васіль Ільіч Грахнёвы выгадавалі двух сыночкаў. Пакалечаныя вайной, яны так хацелі, каб іх дзеці радаваліся мірнаму жыццю, каб мелі ўсё тое, аб чым бацькі нават не маглі марыць: здароўе, вышэйшую адукацыю, любімую справу.

Першага сына назвалі Аляксандрам. Толькі Бог ды яны самі ведаюць, як цяжка было выхадзіць маленькага, калі ў мамы і таты пакалечаныя рукі і ногі. Але знайшліся добрыя людзі, дапамаглі ім.

Потым на свет з'явіўся малодшы, Юрачка. Два сыночкі, як баравічкі, як два вочкі. Такія ж мілыя, добрыя і спагадлівыя, як тата і мама. Грахнёвы не ведаюць, чаму іх дзеці выбралі прафесію ваенных. Можа, гледзячы на пакалечаных вайной бацькоў зрабілі яны свой выбар, а можа, лічылі, што гэта — справа для сапраўдных мужчын.

Цяпер Аляксандр жыве ў Маскве. Ён — генерал-маёр паветрана-дэсантных войск. Мае траіх дзяцей. Усе яны — радасць і гордасць для старэнькіх Таісіі Федасееўны і Васіля Ільіча.

А Юра... Ён паступіў у Калінінградскае вышэйшае мараходнае вучылішча. Усяго 21 год меў, калі закацілася яго зорачка: нечакана разбіўся на матацыкле. Адразу насмерць... Бясконцы боль для мамы і таты. Яго крыху прытупілі, але не сцерлі гады, ён будзе ў сэрцы да скону дзён.

### Гамоняць сосны пра вясну

Дом Грахнёвых стаіць на вуліцы 17 Верасня. У двары шмат соснаў, што трымаюць на сваіх далонях-лапах пухкія камякі снегу. Але іх вершаліны ўжо гамоняць пра вясну. А яна не за гарамі, бо даўжэйшым стаў дзень, ярчэй свеціць сонца. Таісія Федасееўна і Васіль Ільіч таксама вельмі чакаюць вясну. Тады можна будзе выйсці на вуліцу, пагрэцца на сонейку, а то цяпер нямоглы Васіль Ільіч практычна не бывае на двары. Не мае здароўя і гаспадыня. Амаль усе хатнія клопаты ўзялі на сябе сацыяльныя работнікі Таісія Сакратарова і Зінаіда Шкрабко. Яны і ў хаце прыбяруць, і бялізну памыюць, і прадуктаў ды лекаў купяць. Два разы на тыдзень прыходзяць. А так Грахнёвы самі спраўляюцца. Мужныя, цярплівыя, высакародныя людзі.

Святочнае адзенне шаноўных ветэранаў упрыгожваюць шматлікія ўзнагароды. І яна, і ён маюць па два ордэны Айчыннай вайны, а Таісія Федасееўна яшчэ і ордэн Чырвонай Зоркі. І медалёў у абодвух вялікае мноства.

Шумяць над домам сосны, клічуць вясну — мірную, у квецені садоў. Нізкі паклон і шчырае дзякуй вам, дарагія Таісія Федасееўна і Васіль Ільіч, за гэтыя вёсны, за мір, за нашых дзяцей і ўнукаў, што не ведаюць, як гэта жудасна, калі блізка падаюць снарады...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

ПОЗИЦИЯ

## Депутат Новосяд продолжает расследование

*5 февраля "Народная воля" опубликовала мою беседу с депутатом Палаты представителей Владимиром Новосядом. Суть этого материала в том, что депутат пытается выяснить, где же теперь находятся деньги, которые жильцы кооперативных квартир регулярно платили государству в качестве амортизационных отчислений.*

Напомню, что тогда депутат высказал надежду, что правительство Беларуси создаст специальную комиссию, которая займется упомянутой проблемой. Владимир Новосяд надеялся, что его тоже включат в эту комиссию.

Сегодня можно сообщить читателям, что создана специальная комиссия "для подготовки предложений по решению возврата денежных средств, накопленных ранее жилищно-строительными кооперативами на проведение капитального ремонта жилых домов". Возглавил комиссию министр жилищно-коммунального хозяйства Беларуси Владимир Белохвостов. А депутата Владимира Новосяда включили в состав этой комиссии.

Обо всем новом в этой исключительно важной для многих жителей Беларуси проблеме "Народная воля" намерена и далее информировать своих читателей.

**Владимир ГЛОД.**

## Польскія мытнікі затрымалі гераіну на мільён долараў

Польскія мытнікі затрымалі 43 кілаграмы гераіну коштам каля 5 мільёнаў злотых (прыкладна 1 мільён долараў) пры спробе ўвозу наркотыкаў з Беларусі.

Як паведамляюць замежныя СМІ са спасылкай на прэс-сакратара акружной пракуратуры ў Любліне **Анджэя Ляпешкі,** наркотыкі знаходзіліся ў трэйлеры, што накіроўваўся з Турцыі ў Германію. Гераін быў знойдзены польскімі мытнікамі на польска-беларускім пагранічным пераходзе ў Карошчыне (Брэсцкі накірунак).

44-гадовы вадзіцель аўтамашыны, грамадзянін Турцыі, прызнаўся, што ведаў аб транспарціроўцы гераіну. Люблінскі суд пакуль арыштаваў турэцкага вадзіцеля на тры месяцы. У адпаведнасці з польскім заканадаўствам яму пагражае 15 гадоў зняволення.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

## Не бойтесь сказать правду, коллеги!

*По поручению семьи Юрия Захаренко я вынужден обратиться с открытым письмом к Вам, коллеги-юристы, а именно к тем, кто принимал и принимает участие в расследовании уголовного дела по факту насильственного исчезновения экс-министра МВД Республики Беларусь Юрия Захаренко.*

**Вот уже около пяти лет расследуется данное уголовное дело, но, к сожалению, за это время семья не получила официального документа, что было сделано правоохранительными службами в поисках их самого дорогого и любимого человека. Семья Юрия Захаренко только частично обладает информацией о ходе расследования данного дела — спасибо правозащитникам, журналистам и некоторым другим смелым людям, которые смогли прорвать тайну следствия.**

**Не так давно в средствах массовой информации появился предварительный меморандум специального докладчика юридической комиссии ПАСЕ по обстоятельствам исчезновений политиков в Беларуси Христоса Пургуридеса. В нем, можно сказать, открытым текстом говорится о ряде высокопоставленных должностных лиц, которые в той или иной мере причастны к исчезновению Юрия Захаренко и других пропавших политиков.**

**Меня тревожит то, что офицеры МВД, КГБ и прокуратуры, которые занимались установлением обстоятельств исчезновения экс-министра МВД Юрия Захаренко, конечно, знают всю правду о его похищении, но из-за трусости молчат, боясь за свою карьеру, боясь потерять работу. Хочется спросить: где же ваша офицерская честь, как же вы живете со своей совестью, зная, как жена и дочери Юрия Захаренко мучаются все эти годы в полном незнании о судьбе их мужа и отца? Сколько слез проливает мама Юрия Захаренко в надежде, что он когда-то вновь придет и, как раньше, тихо постучит в окошко и скажет: "Здравствуй, мамочка!" Но время идет, а Юрий Захаренко не стучится в окно к своей матери и, наверное, никогда больше не постучит.**

**Я думаю, что момент истины близится. Недалек тот час, когда будут отвечать не только те, кто совершил преступление против Юрия Захаренко, но и те, кто всё знал об этих преступлениях, но молчал, хотя в силу своих служебных полномочий был обязан привлечь виновных к уголовной ответственности.**

**Помните, господа-юристы, сроки давности на данные дела не распространяются. Рано или поздно покаяние придет к каждому из вас. Хотелось бы, чтобы оно вовремя пришло, и не пришлось вам доживать с угрызениями совести остаток жизни и молиться Богу за свои грехи, чтобы он их отпустил.**

**Расскажите всю правду о пропавших политиках, очистите свою душу от страха. Сделайте этот мужественный шаг, тем самым вы сохраните свою офицерскую честь от позора перед своими детьми и внуками. Помните, что Юрий Захаренко никогда вас не предавал, будучи на посту министра МВД Республики Беларусь, всегда защищал честное имя сотрудника милиции. Пришло время, когда вы должны защитить его семью от унижений и оскорблений, поскольку их защитника нет. Семья Юрия Захаренко ждет от вас этого гражданского поступка.**

**P.S. Нет и ясности по гражданскому делу об объявлении умершим Юрия Захаренко. Почему Фемида не хочет признавать его умершим, когда на это есть все законные основания?**

**Олег ВОЛЧЕК,**
**старший следователь прокуратуры Фрунзенского района г. Минска (1994—1998 гг.),**
**представитель семьи Юрия Захаренко.**

ВІНШУЕМ!

*Захар ШЫБЕКА:*

## «Веданне гісторыі — гэта сапраўдны капітал»

**Беларускі ПЕН-цэнтр уручыў прэмію імя Францішка Багушэвіча аўтару "Нарыса гісторыі Беларусі. 1795—2002" доктару гістарычных навук, прафесару Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта Захару ШЫБЕКУ.**

Трэба адзначыць, што сёлета ў спісе лаўрэатаў было толькі адно імя, і камісія адзінагалосна прыняла рашэнне аб уручэнні ганаровага дыплома і медаля сапраўднаму прадстаўніку Адраджэння.

Тыя, хто браў слова і віншаваў аўтара, шчыра дзякавалі яму за працу. Кніга Шыбекі з'явілася першай несавецкай працай такога кшталту. У рэкламе выданне не мае патрэбы, бо ўвесь тыраж разышоўся імгненна.

Сам Захар Шыбека, выказаўшы ўсім падзяку, крыху распавёў пра шлях да гэтай прэміі. Як высветлілася, сваёй найбольш удалай кнігай ён лічыў зусім не *"Нарыс гісторыі Беларусі.* 1795—2002", а *"Мінск. Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада".*

*"У "Нарысе гісторыі" я першым сказаў нешта новае аб пасляваенным часе. Кніга не савецкая, але і не антысавецкая. Я стараўся памяркоўна асэнсаваць факты. Каб нікому не стала брыдка",* — сказаў Захар Шыбека.

Пасля завяршэння афіцыйнай часткі вакол лаўрэата самкнулася шчыльнае кола жадаючых павіншаваць аўтара ці ўзяць аўтограф. І ўсё ж карэспандэнту "Народнай волі" давялося дачакацца доктара гістарычных навук і задаць яму некалькі пытанняў.

**— Захар Валянцінавіч, Вы сёння атрымалі столькі віншаванняў з нагоды выхада кнігі!.. Цікава, а наколькі важная для Вас сама прэмія?**

— Трэба адзначыць, што гэта не першая мая прэмія. За "Нарыс гісторыі Беларусі. 1795—2002" я ўжо маю прэмію польскага часопіса "Пшэгленд Всходні". Гэта кніга раней выйшла на польскай мове і перамагла ў намінацыі "Даследаванні замежных гісторыкаў". Але калі атрымліваеш падзяку на сваёй радзіме, ад вядомых пісьменнікаў, ад інтэлігенцыі, вартасць гэтай прэміі, натуральна, узрастае ў некалькі разоў. Таксама сімвалічна тое, што я атрымаў прэмію 25 сакавіка — у дзень абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Такая абстрактная падзея для мяне як гісторыка ператварылася ў падзею асабістую. А гэта ўручэнне яшчэ больш прывязала мяне да традыцый БНР...

**— На Ваш погляд, чаму на гэтую прэмію была прадстаўлена толькі адна праца?**

— Гэта залежала ад арганізатараў. Але я хацеў бы сказаць, што апошнім часам з'явілася вельмі шмат даследаванняў па гісторыі Беларусі. Напэўна, мая кніга мае перавагу над іншымі толькі ў тым, што ў ёй упершыню ў такім абагульняючым выглядзе асэнсоўваецца гісторыя Беларусі.

На жаль, беларусы слаба ведаюць сваю гісторыю. А веданне гісторыі — гэта сапраўдны капітал. І сёння нам трэба пачынаць разумець, вывучаць калекцыю набыткаў сваёй гісторыі, каб не заставацца простымі калекцыянерамі, а быць яшчэ і знаўцамі.

**Дар'я ГАЎРЫЛАВА.**

БОЛЬ

## Прощайте, иллюзии!

*Дорогая редакция, поместите, если можно, мое объявление. Вот оно.*

***Я, КАРПЕНКО ЛАРИСА ТРОФИМОВНА, ВЕТЕРАН ТРУДА, ПРОДАЮ СВОИ ЦЕННЫЕ ВЕЩИ, А ИМЕННО: ОРДЕН (ОДИН), МЕДАЛИ (ДЕСЯТЬ), ГРАМОТЫ (ДВАДЦАТЬ) ШТУК — ОТ ВЕРХОВНОГО СОВЕТА, МИНИСТЕРСТВА ОБРАЗОВАНИЯ, ОБЛАСТНЫХ И РАЙОННЫХ ОРГАНИЗАЦИЙ.***

Когда-то они были мне дороги, ибо заработаны десятилетиями тяжелого, беспокойного педагогического труда. А теперь... В итоге этого труда, под старость, я оказалась в состоянии полунищего человека, не заработавшего себе даже на самый скромненький телевизор. Всю жизнь жила (Господи, если б только я!) возвышенным девизом "Раньше думай о Родине, а потом о себе", а вот она обо мне и всех нас не очень-то подумала.

Поскольку мне продавать больше нечего, я решилась расстаться с ворохом почетных свидетельств о моих былых иллюзиях. Слышала, есть коллекционеры подобных "ценностей". Может, кто заинтересуется?

**Лариса КАРПЕНКО,**
**ветеран труда.**
**(213530, Могилевская обл., г.Чериков, ул.Болдина, 11, кв.3.)**

КРИМИНАЛ

## Третья ходка Александра Лесневского

Гомельчанин Александр Лесневский еще в несовершеннолетнем возрасте дважды "залетал" в воспитательную колонию, причем вторую судимость заработал за разбойное нападение. И оба раза его досрочному освобождению способствовали амнистии, щедро "раздаваемые" в последние годы государством. Не пробыв на свободе и года, теперь уже вполне взрослый мужчина снова угодил на "зону". Вечером возле лестницы, ведущей на почти километровый пешеходный мост через железнодорожные сортировочные пути, соединяющий Центральный и Железнодорожный районы областного центра, он напал на возвращавшуюся домой девушку. Свалив ее на асфальт ударом в лицо и избив ногами, нападавший отобрал сотовый телефон "Самсунг" и золотую цепочку с крестиком. Следы преступника скрыла темнота.

На ближайшей остановке общественного транспорта ожидавшие троллейбус граждане с помощью другой "мобилы" вызвали по просьбе потерпевшей милицию. К удивлению девушки, уже через минуту возле остановки притормозила милицейская автомашина. Сотрудники милиции Центрального РОВД Эдуард Мартыненко, Юрий Клопков и Владислав Мищенко приняли сообщение от дежурного по рации, возвращаясь с места происшествия в этом же микрорайоне. Дальнейшие действия "оперов" не могут не вызывать восхищения — уточнив у потерпевшей приметы нападавшего и включив мигалку с сиреной, они рванули в пятикилометровый объезд железнодорожных путей по кратчайшему маршруту.

Спускавшегося по лестнице на противоположной стороне пешеходного моста преступника задержали с похищенным. Опоздай сыщики на минуту — и разбойник скрылся бы в своей квартире в расположенной неподалеку многоэтажке.

Доставленный в Центральный РОВД Александр попытался оправдаться — телефон его, купил у незнакомого без техпаспорта.

С поставленной перед ним задачей — позвонить по номеру дежурной части задержанный не справился, телефон категорически не желал работать.

Вскоре в отделе милиции появилась с родителями избитая потерпевшая, еще раз удивившаяся за вечер — в задержанном она узнала своего обидчика. Кстати, очутившийся в ее руках похищенный телефон заработал. Оказывается, он был закодирован на... голосовую команду владелицы.

Третья ходка Александра в места не столь отдаленные по приговору суда Центрального района Гомеля продлится семь лет. К его огорчению, январская амнистия на сокращение срока наказания не повлияла. Сколько можно пользоваться поблажками...

**Михаил ОГОНЬКОВ.**

ПРОИСШЕСТВИЯ

## Скинхеды вышли на «охоту»

Очередной жертвой минских скинхедов стал гражданин Китая. Студент первого курса БНТУ Чен Хао был избит тремя парнями на улице Ванеева. Китайца с черепно-мозговой травмой легкой степени, ушибами и ссадинами госпитализировали в 9-ю клиническую больницу, а его обидчиков отправили в изолятор временного содержания. Двое из них учатся в лицее машиностроения, третий участник избиения — второкурсник ПТУ-148. В момент нападения на студента они были пьяны.

Уголовное дело возбуждено по статье 339 УК "Хулиганство".

По неофициальным данным, в Минске насчитывается от 250 до 350 скинхедов, или, как их еще называют, бритоголовых. Примерно еще несколько сотен, в основном подростков, можно причислить к "сочувствующим" этому агрессивному молодежному течению. Столичные скинхеды по районам проживания делятся на три группировки: "центральная", "автозаводская" и "аэропортовская". После ряда тяжких преступлений, в их числе и убийство, милиция взяла бритоголовых под особый контроль, а потому удалось на корню пресечь несколько попыток молодчиков устроить погромы, подобные тем, что случались на рынках Москвы.

**Виталий ЧИЖОВСКИЙ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

## «Ляписы» снесли «Золотые яйцы»

*Группа "Ляпис Трубецкой" наконец определилась со сроками выхода своего нового альбома — одного из самых долгожданных и крупных белорусских релизов этого года. Диск получил название **"Золотые яйцы"** и будет выпущен 15 апреля.*

В России диск "Ляписа Трубецкого" издает компания *"Союз",* которая выпустила первые два альбома группы, включая легендарный *"Ты кинула" (1998).* В Украине диск выпустит *"Lavina Music",* крупнейший рекорд-лейбл в стране, работающий с местными (и не только) суперзвездами в лице ***"Океана Ельзи", "Воплей Видоплясова", Ани Лорак*** и других. В Беларуси альбом выйдет под маркой *"West Records",* которая выпустила последние альбомы **"N.R.M"., "Крамбамбули", Алексея Хлестова** и других наиболее популярных отечественных поп- и рок-исполнителей.

Альбом наполнен традиционным для "Ляписов" позитивом, но в сравнении с предыдущими работами более разнообразен по музыке. "Не хочется преувеличивать, но мне кажется, что там есть какие-то совершенно неожиданные для наших поклонников моменты. С другой стороны, наши альбомы никогда не были одинаковыми", — отметил лидер группы **Сергей Михалок.**

В диск войдет 13 песен. Среди них две композиции из прошлогоднего экспериментального макси-сингла "Чырвоны кальсоны" ("Ласточки", "Курвы"), а также сопровождавшийся видеоклипом недавний радиосингл *"Раинька".*

В ближайшее время в эфире телеканалов появится еще один клип — на этот раз на заглавную песню ***"Золотые яйцы",*** выполненный минскими художниками в виде пластилиновой анимации.

## Леонид Борткевич хочет увидеть свою бывшую жену Ольгу Корбут

*На днях в продаже появится новый альбом ансамбля "Песняры" под управлением **Леонида Борткевича.** Диск получил название **"Почему не ведаю"** по одной из вошедших в него песен.*

Это первая запись коллектива без **Владимира Мулявина,** который проработал именно с этим составом с 1998 года до трагических событий 2002 года.

Альбом включает самые разные песни. Прежде всего это композиции, относительно недавно появившиеся в репертуаре коллектива. Из них несколько песен альбома принадлежат перу **Олега Устиновича,** гитариста и вокалиста нынешних "Песняров", начинавшего еще при Мулявине. Несколько других, включая заглавную композицию *"Почему не ведаю",* в 80-х были в сольном репертуаре **Леонида Борткевича** после его ухода из группы. Одна из композиций (*"Реквием"*) посвящена памяти Владимира Мулявина. Также на диске представлено несколько новых записей старых хитов коллектива и песни известных советских авторов.

В настоящее время коллектив ведет бурную гастрольную деятельность в России и дальнем зарубежье. Не так давно музыканты вернулись из Израиля, а на днях отправились с концертами в США. Музыканты выступят в Нью-Йорке, Чикаго, Кливленде и других городах. Говорят, несмотря на напряженный график, **Леонид Борткевич** планирует задержаться в Америке немного дольше остальных участников группы, чтобы навестить проживающих там сына и бывшую супругу, легендарную гимнастку **Ольгу Корбут.**

**Евелина КРУПЕНЬКИНА.**

